Бензярук Р.

Чаму Сонца рана ўстала? Казкі. — Брэст, 1997. — 32 с.

Што лепей — Будзень ці Свята, чаму ўлетку сонца рана ўстае, як вылечылі ад прастуды Дзеда Мароза, — на гэтыя і іншыя пытанні знойдзеце адказ, прачытаўшы казкі Расціслава Бензерука. Для дапытлівых хлопчыкаў і дзяўчынак адрасаваны казкі-загадкі, для дзіцячых лялечных тэатраў — казка-п'еса "На паляне, каля ёлкі..."

ISBN 985-6406-08-0

## БУДЗЕНЬ І СВЯТА

Яны сустрэліся на дарозе. Ён у саламяным капелюшы, лапцях, зрэбнай апратцы, з клуначкам за плячамі. Яна сядзела ў брычцы, запрэжанай параю коней, маладая і прыгожая.

Ён пакланіўся незнаёмцы, і тая звярнула на падарожнага ўвагу:

— Хто ты? Куды ідзеш?

— Будзень я. Іду куды вочы глядзяць.

— А, цябе выгналі з сяла? — засмяялася паненка.

Ён здзіўлена паглядзеў на яе:

— Адкуль ты ведаеш?

— Я — Свята! — з гордасцю пахвалілася паненка. — Калі людзі запрашалі, я сказала, што прыйду, як цябе прагоняць.

— Ах, вось чаму ўсе раптам сталі такія няветлівыя! — здагадаўся Будзень. — Нават у дарогу нічога не далі.

— Ідзі-ідзі і не вяртайся! — сказала, як загадала, Свята. — Я надоўга прыехала, а можа, і назаўсёды.

— Але ці можна жыць, калі кожны дзень — Свята? — засумняваўся Будзень.

— Можна! — зарагатала паненка і тузанула за лейцы. Брычка ўехала ў сяло. Свята галосна заспявала:

Кідайце, людзі, граблі, косы —
Свята едзе ў госці!
Кідайце сярпы, жніцы, —
Будзем пець і весяліцца!.

Людзі пабеглі насустрач. Свята злезла з брычкі, агледзелася:

— А чаму няма гармоніка? Дзе дуда?

Паслалі па музыкаў, а самі хуценька пачалі сталы расстаўляць, стравы насіць. Госцю на покуць пасадзілі. З'явіліся музыкі. І развесяліліся людзі, пайшлі ў скокі.

— Як жа мы раней жылі? — здзіўляліся яны. — Усё праца ды праца.

Дзень весяліліся, пяць, месяц, аж бачаць — на сталах і ў каморы пуста. Што піць, есці? Задумаліся людзі.

— Трэба за працу брацца! — сказаў адзін са старэйшых. — Інакш з голаду памром.

— Але ж у нас Свята! — запярэчылі астатнія. — Пры такой госці мы не прывыклі працаваць. Дый Будзень невядома дзе.

— Трэба знайсці яго і папрасіць, каб зноў прыйшоў.

Тым часам Будзень, пахадзіўшы па свеце, дамоў вяртаўся. Людзі кінуліся да яго:

— Як ты дазнаўся, што нам цяжка?

— Хто доўга гуляе, той багацця не мае! — адказаў Будзень.

Пачула гэта Свята, бегма да брычкі і наўскач пагнала коней.

А людзі і цяпер у будзень працуюць, сіл не шкадуючы, а прыйдзе свята — гуляюць. Толькі надоўга ў госці да сябе свята больш не запрашаюць.

## КАМАР І КАРП

У рачной затоцы, сярод чаратоў, жыў карп. Вялікі, бліскучы, ён быў за люстэрка для модніц-плотвачак. Карп быў разумны, чытаў тоўстыя кнігі, і ўсе рыбы называлі яго не інакш, як Карп Іванавіч. Сябраваў з ім камар, па імені Макар.

Ён прылятаў да карпавага жытла, і сябры падоўгу вялі разумныя гутаркі. Аднойчы Карп Іванавіч прачытаў, што зямля круглая і калі плыць увесь час у адным напрамку, дык вернешся дамоў. Пачуўшы гэта, Макар замітусіўся:

— Дык давай. Карп Іванавіч, збудуем такі карабель, якому не страшныя будуць ні мора, ні акіян...

Сябры ўзяліся за справу, і неўзабаве параход быў гатовы. А як назваць судна?

— "Крап", — прапанаваў Карп Іванавіч.

— Чаму "Крап"? — здзівіўся камар.

— Я вельмі люблю, як дождж ідзе, — прызнаўся Карп Іванавіч. — Дажджынкі — крап, крап. Тады і чытаецца, і думаецца хораша.

Камар вывеў вялікімі літарамі назву "КРАП". Аказалася, аднак, што карп дапамагаў будаваць карабель, але ў далёкае падарожжа плыць не збіраецца. Камар доўга ўпрошваў яго:

— Нам удвух будзе весялей, і бяспечней, і смялей. Будзьце вы за капітана, а я — проста мараком.

Але і на гэта Карп Іванавіч не згадзіўся:

— Які з мяне вандроўнік?! Я люблю хадзіць у падводны парк, гуляць ў шашкі, чытаць кнігі. А ты сабе плыві і пасылай мне пісьмы, каб я ведаў, як ідзе тваё падарожжа...

І камар паплыў. Ён доўга стаяў на карме карабля, аж пакуль не знік з вачэй Карп Іванавіч, які махаў услед яму лістком.

У першым вялікім горадзе, дзе стаў на рэйдзе карабель, капітан-марак Макар сышоў на бераг, зайшоў у краму, купіў канверт з бліскучай маркай, напісаў пісьмо і паслаў сябру. Так ён рабіў і пазней.

Аднойчы ў акіяне разгулялася такая бура, што карабель кідала, бы шчэпку, але смелы капітан-марак не спалохаўся. Ён упэўнена вёў судна па компасу і верыў, што ў далёкай затоцы з нецярпеннем чакае яго сябар.

Карп Іванавіч амаль штодзень хадзіў у парк, чытаў знаёмым лісты ад адважнага капітана.

Потым прыйшла зіма і рака пакрылася лёдам. Перастала працаваць пошта. Карп, лежачы ў пасцелі, думаў: "А як там Макар? Нялёгка яму. Хутчэй бы дамоў вярнуўся!"

А пасля была вясна. І адзін раз Карп Іванавіч здалёк убачыў вялікі параход з назваю "КРАП". Узрадаваўся і паплыў хутчэй насустрач.

Неўзабаве дружбакі сядзелі за сталом і пілі чай. Макар расказваў аб падарожжы, а Карп Іванавіч з захапленнем глядзеў на яго: які бясстрашны ў яго таварыш!

— Усё правільна пішуць у кніжках! — гаварыў камар.

А Карп Іванавіч расказаў: калі збудаваць вялікі касмічны карабель, дык ён можа развіць такую хуткасць, што даставіць касманаўта на Марс ці Венеру.

— Дык чаго ж мы сядзім, Карп Іванавіч?! — падхапіўся камар з месца. — Пайшлі будаваць ракету!

Добра ведаючы, што Макар не адступіцца, пакуль не зробіць, Карп Іванавіч паспяшаўся за ім.

## ЗАЕЧАЯ ШАПКА

Аднаго разу вымяняў цыган заечую шкурку. Прынёс да шаўца, каб той пашыў яму шапку. Шавец паглядзеў на шкурку і развёў рукамі:

— Надта маленькая, шапка не выйдзе. Калі б дзве-тры такія...

— А ты трохі з яе, трохі — з палатна, — падказаў цыган.

— Ну, калі так, дык можна, — згадзіўся шавец.

Выйшла шапка са скураным клінам, і цыган вырашыў прадаць яе.

— Ці купіць хто? — засумняваўся шавец.

— А ты прыйдзі на кірмаш — убачыш...

На кірмашы цыган галосна заклікаў пакупнікоў:

— Купляйце заечую шапку! Купляйце заечую шапку! Прадам не дорага...

Сабраўся народ, слухае цыгана, пацвельвае:

— Якая ж гэта заечая?! Яна — палатняная!

— Не кажыце так! — пасміхаецца цыган. — Вось тут паглядзіце: заечая шапка? — паказвае на ўшытую шкурку.
— Заечая, — гаворыць нехта з натоўпу.
Цыган лоўка пакручвае шапку ў руках і паказвае тым самым бокам:
— І тут бачыце: заечая!
Цыган трэці раз пакручвае шапку ў руках, зноў паказвае на лапік шкуркі і пытае:
— А тут хіба не заечая?
— Заечая! — весяляцца людзі цыгановай выхадкай.
Знайшоўся-такі бедны шляхцюк і купіў шапку.
Позна вяртаўся ён дамоў. Штосьці спалохала каня,
кінуўся ён раптам наўскач. Дубовая галіна моцна сцебанула шляхцюка, збіла з галавы шапку.
Ён поўзаў па зямлі, шукаючы прапажу, калі пад'ехаў шавец.
— Што шукаеш, паночку? — спытаў ён.
— Шапку сёння купіў і згубіў.
— Ці не заечую? — усміхнуўся ў вусы шавец.
— Заечую, — прызнаўся шляхцюк.
— То дарэмна шукаеце, паночку! Яна зноў ператварылася ў зайца і ў лес паскакала.
— Як жа так! — аж усхапіўся на ногі шляхцюк.
— Ты ж у цыгана купляў. А ён усё можа.
— Значыць, не варта шукаць, — замаркоціўся шляхцюк, сеў на брычку і паехаў.
Шавец весела смяяўся яму ўслед.

## БОТ ЦІ ЛАПАЦЬ?

У даўнія часы, калі людзі жылі не так багата, асноўным абуткам у палешукоў былі лапці. Сплеценыя з лыка, яны служылі мужыку ўзімку і летам.
Не я і нават не мой дзед, а дзедаў дзед Сцяпан у новых лапцях паехаў у мястэчка на кірмаш. Павёз жыта прадаваць.
Між вазамі важна паходжваў пан Пшэкраса. Хромавыя боты парыпвалі: рып-рып, рып-рып!
Слухаў, слухаў дзед Сцяпан і сказаў насмешліва суседу:
— Рыпяць панскія боты, як драчы на балоце!
Як ускінуўся пан Пшэкраса! Гатовы быў, здавалася, кулакамі малаціць:

— Што, мужык, табе мае боты не падабаюцца?! Можа, лапці твае лепшыя?

— Можа, й лепшыя! — спакойна адказвае дзед Сцяпан.

— А ты дакажы!

— І дакажу! — гаворыць Сцяпан. — Калі вунь да той сасны першы дойдзеш — значыць, твае боты лепшыя, а калі я — дык мае лапці. Згодзен?

— Згодзен.

Сабраліся людзі паглядзець, што выйдзе: не кожны ж дзень мужык з панам цягаецца!

Спачатку яны ішлі ўровень, ды трапілася вялікая лужына — ад аднаго краю дарогі да другога. Сцяпан як ішоў, так і пайшоў. А пан, пакуль разбуўся, прайшоў лужыну, зноў абуўся, і... адстаў.

— Несправядліва! — крычаў пан Пшэкраса,— Я мусіў разбувацца і абувацца.

— Ну, дык і я кажу, што лапаць лепей за бот.

— Няпраўда твая. Давай назад яшчэ пройдзем! — прапаноўвае пан Пшэкраса.

— Давай...

Дайшлі яны да лужыны. На гэты раз Пшэкраса не стаў разбувацца. Ступіў раз, ступіў два — набраў вады. Боты сталі цяжкія, і пан зноў прайграў мужыку.

— Давай трэці раз! — гарачыцца Пшэкраса.

— Не трэба, паночку. Усё адно прайграеш.

А тут яшчэ з натоўпу нехта заўважыў:

— Не стае сілы ў пана, каб перамагчы Сцяпана!

— Бо наш Сцяпан — сам сабе пан! — дадаў другі.

Бачыць пан Пшэкраса, што ўсе смяюцца з яго, і пайшоў прэч...

Вярнуўся Сцяпан з кірмашу і стаў забывацца пра здарэнне, калі ў нізкую дзедаву хату заявіўся сам пан Пшэкраса.

— Я хачу, — сказаў ён, — памяняць свае боты на тыя лапці, у якіх ты на кірмашы быў...

Аказалася, што ў гэты дзень на кірмашы была і любімая панская дачка Гэлена. Яна бачыла, як сапернічаў бацька з мужыком, і запатрабавала ад пана Пшэкрасы, каб ён прывёз для яе тыя лапці.

— А чаму не памяняцца? — згадзіўся адразу дзед Сцяпан.

Пан Пшэкраса адчыніў дзверы і гукнуў фурмана. Той прынёс хромавыя боты.

Дзед Сцяпан сплёў сабе новыя лапці, а ў панскіх ботах хадзіў толькі на свята ў царкву. Пасля сыну свайму перадаў, а той — свайму І доўга-доўга яшчэ ўспаміналі ўсе добрым словам дзеда Сцяпана.

## ПРА ГАРДЗЕЯ І ЛЯСНЫХ ЗВЯРОЎ

Садоўніка звалі Гардзей. Ён, здаецца, ніколі нікога не пачаставаў ні яблыкам, ні вішняю, ні ягадай. Хоць сад радзіў добра.

Варта было Вожыку сабраць яблыкаў-паданак, як Гардзей так пад даў яго нагой, што Вожык адразу за агароджай апынуўся. Прагнаў ён і Вавёрку, а Дзіка яшчэ і кіем агрэў.

Пакрыўдзіліся звяры і вырашылі правучыць скнару. Зрабіць было гэта не так цяжка, бо Гардзей вельмі любіў хадзіць у госці.

Калі аднойчы ён аглядаў сад, сустрэўся Вожык:

— Хачу, Гардзеюшка, запрасіць цябе ў госці, — сказаў ён.

— Я не супраць, — адразу згадзіўся садоўнік.

— Толькі я папрасіў бы яблыкаў на пірог. Ох, які пірог пячэ мая жонка!

У Гардзея ажно слінькі пацяклі, калі ўявіў сабе пірог з яблыкамі. Ды ўсё-такі запытаў:

— А многа табе яблыкаў трэба?

— Не, толькі некалькі штук.

— Дык вазьмі...

Вожык накалоў некалькі яблыкаў і патупаў у лес.

— Дзе ж я цябе адшукаю? — апамятаваўся ад радасці Гардзей.

— Мой дом пад лазовым кустом...

Затым прыскакала Вавёрка.

— Садоўнік, прыходзь да мяне абедаць, — запрасіла яна.

Калі той згадзіўся, папрасіла вішань на кампот, і Гардзей не змог адмовіць.

— Жыву я на старой разгалістай сасне, — на развітанне сказала Вавёрка.

Дзік запрасіў садоўніка на вячэру і выпрасіў у яго яблыкаў і груш.

У гэты дзень Гардзей лёг спаць не павячэраўшы. Галодны, ён не змог доўга ўлежаць і, як стала днець, пайшоў у госці да Вожыка.

Калі развіднела і Гардзей нарэшце адшукаў Во- жыкаву хату пад лазовым кустом, гаспадар нечакана сказаў:

— Не, я да цябе не прыходзіў па яблыкі і ў госці цябе не чакаў, — і, заўважыўшы, што замаркоціўся чалавек, дадаў: — Гэта; можа, мой брат быў? Ён на другім канцы лесу жыве.

Пайшоў Гардзей шукаць Вожыкавага брата. Але хіба хутка знойдзеш! Садоўнік нават світку парваў, прабіраючыся праз кусты. Толькі ў поўдзень ён быў на другім канцы лесу.

— Ведаеш, Гардзей, — сустрэў яго Вожык, — я цябе чакаў у госці зранку, а зараз ужо абед. Мы з'елі пірог з яблыкамі, і частаваць цябе няма чым.

— Значыць, я пайду абедаць да Вавёркі, — разважыў Гардзей.

Але і яе адшукаць было няпроста. У лесе шмат старых, разгалістых сосен. Вечарэла, калі знайшоў ён знаёмую Вавёрку.

— Э, ды ты, Гардзеюшка, спазніўся амаль на паўдня, і есці ў мяне няма чаго.

Можна было пашукаць яшчэ Дзіка, але пачынала ўжо змяркацца. Галодны і злосны, паплёўся Гардзей дадому. Ды так, мусіць, яму і трэба: дзяліся з іншымі, дык і з табой падзеляцца!..

## САКАВІК

Прыйшоў да нас Сакавік, абудзіў лугі, палі і ў лес падаўся. Толькі ўвайшоў — Зайчыка сустрэў. Зарадаваўся той, заскакаў:

— Пабягу хутчэй братам раскажу, хто прыйшоў...

Г пабег, а Сакавік — далей. Убачыў Вавёрчына дупло, пастукаўся. Гаспадыня выскачыла на ганак.

— А-а, Сакавік прыйшоў. Вось радасць! Заходзь, заходзь, я цябе грыбамі пачастую.

А Сакавіку няма калі, работа чакае. Пайшоў далей. Бачыць, хатка стаіць пры дарозе. Зазірнуў у акно: спіць нехта. Просіць Сакавік Сонца:

— Пасвяці, паглядзім, хто там моцна спіць і не ведае, што вясна прыйшла ўжо.

Пасвяціла Сонца ў хатку і пабудзіла Вожыка.

— Ты — Сакавік! А я ўсё сплю, — збянтэжыўся ён.

— Ну і лежань! — засмяяўся Сакавік. — Залёг яшчэ да зімы, а цяпер вясна на дварэ.

— Праўда, праўда, — затупаў каля хаткі Вожык. — Дзякуй, што пабудзіў, у мяне ж столькі работы! — І заспяшаўся ў лес.

Ідзе Сакавік далей і думае: "Нешта я Мядзведзя дагатуль не сустрэў. Дзе ж гэта ён?"

А тут Зайчыкаў брат насустрач. Сакавік — да яго:

— Скажы, не бачыў Мядзведзя?

— Чаму ж не бачыў? — нават пакрыўдзіўся Зайчыкаў брат. — Ногі ў мяне доўгія, я ужо ўсіх абабег. Касалапы спіць яшчэ. Хочаш, пакажу дзе?

Сакавік рушыў за Зайчыкам. Забраліся яны ў самы гушчар. А там, пад вывернутым дубам, Мядзведзеў замак.

Зазірнула Сонца ў акно — Мядзведзь і не варухнуўся.

— Свяці, Сонейка, мацней, каб мы ўсё-такі разбудзілі яго, — просіць Сакавік.

Ну, Сонца і пастаралася. Не сцярпеў Мядзведзь, устаў, адчыніў дзверы ды як раўне:

— Хто мне спаць не дае?!

Бачыць: стаіць Сакавік, усміхаецца, і Сонца весела смяецца.

— Ты, мабыць, мяне самага першага пабудзіў? — ужо лагадней пытае Мядзведзь.

— Ды што ты? — адказвае Сакавік, — Ужо ўвесь лес абудзіўся, сам паглядзі.

І лянуў Мядзведзь навокал — і праўда, усе вясновай працай занятыя.

— Дзякуй табе, Сакавік, што пабудзіў. Я мог бы і лета праспаць. Хто б тады маліну за мяне сабраў?

## ХОВАНКІ

Грыбы вырашылі згуляць у хованкі. Сабраліся на вялікай паляне, і Баравічок пачаў лічыць:

У лясочку,
пад калінавым кусточкам,
б'е крыніца.
У ёй вада-жывіца...
Табе закрывацца
і жмурыцца,
а нам — хавацца!

Жмурыцца выпала Мухамору. Ён заплюшчыў вочы, а грыбы разбегліся па лесе і пахаваліся хто куды.

Шукаў, шукаў іх Мухамор — нікога не знайшоў. Змарыўся, прысеў у цяньку адпачыць. "Не буду шукаць, — вырашыў ён. — Надакучыць ім сядзець, павысоўваюць галовы!"

Не ведаў Мухамор, што ў лес прыйшла Ірынка і таксама шукае грыбы. А яна дзяўчынка зыркая, увішная. Зайшла ў асіннік —

знайшла Падасінавіка. Пад сухім лісточкам заўважыла Лісічку з тузінам сястрычак.

— А хто гэта ў мох зашыўся? — весела сказала Ірынка. — А-а, Махавічкі, і вам месца ў кошыку знойдзецца...

Доўга шукала Ірынка Баравіка. Сасоннік прайшла, у дубняк зайшла. Нарэшце прыкмеціла краёк чорнай шапачкі.

— Бач, які хітрун, пад лісточак схаваўся.

З поўным кошыкам вярталася дзяўчынка дадому. Спачатку грыбы сядзелі ціха. Потым падаў голас Падасінавік:

— Мы ўсё-такі нядрэнна схаваліся, калі Мухамор нас не знайшоў.

— Але ж Ірынка знайшла, — заўважыла Лісічка.

— Ну, ад яе ніхто не схаваецца, — сказаў Баравік.

— Мухамор, ві даць, у другі бок пайшоў, — вырашылі грыбы.

Не ведалі яны, што і Мухамора сустракала Ірынка, ды ў кошык не ўзяла...

## ЧАМУ СОНЦА РАНА ЎСТАЛА?

Мядзведзік Патапка соладка спаў у ложку, калі сонца, прабіўшыся праз густыя галіны, зазірнула ў акно. Ён адчуў цёплыя сонечныя промні, пацягнуўся і незадаволена буркнуў:

— Чаму так рана ўстала і мяне будзіш?

Сонца толькі ласкава ўсміхнулася ў адказ.

Мядзведзік прачнуўся. Яму нічога не заставалася, як апранацца. Неўзабаве ён у сваім сіненькім касцюмчыку выйшаў на вуліцу.

Непадалёку Вавёрка збірала грыбы.

— Што не ўспалася, суседка? — спытаў Патапка.

— Хто раней устане, той болей знойдзе,— бойка адказала Вавёрка, зразаючы крамяны баравічок.

Мядзведзік пабег далей. Насустрач Заяц з паштарскай торбачкай. Ён усюды бывае, розныя навіны ведае.

— Што новага, паштар? — пацікавіўся Патапка.

— Навін у лесе шмат. Самых розных,— адказаў Заяц.— А для цябе самая цікавая, мусіць, што ў Мядзведжым завулку маліны даспелі.

— Няўжо даспелі?! — не паверыў Патапка,— Я, здаецца, учора там быў, дык ягады былі яшчэ зялёныя.

— А сёння зранку сонейка зірнула на іх з пяшчотаю, вось яны і заружавеліся,— растлумачыў паштар.

— Калі так, дык я пабег маліны збіраць! — сарваўся з месца Патапка. Усю дарогу ён паўтараў: — Хто першы забяжыць, той болей назбірае! Я першы забягу і найбольш нарву!

Патапка быў ужо каля Мядзведжага завулка, калі сустрэлася яму Пчала. Яна несла ў лапках шкляначку духмянага мёду.

"Значыць, не адно сонца рана ўстае! — падумалася Патапку.— І Пчала, і Заяц, і Вавёрка".

— Скажы, Пчолка,— спытаў у яе ўсё-такі Патапка, — чаму летам сонца доўга не спіць?

— У каго многа работы, той рана ўстае,— не спыняючыся, прагудзела Пчала.— А ў сонца шмат спраў зараз...

## ЯК ЗАЯЦ З МЯДЗВЕДЗЕМ СЯБРАВАЎ

Пакрыўдзіўся Заяц на Вавёрку, што не жадае з ім сябраваць. "Нічога, — вырашыў ён, — я знайду сабе такога дружбака, што ўсе зайдросціць будуць!" І, сустрэўшы Мядзведзя, прапанаваў:

— Міхайла Іванавіч, давай сябраваць з табою!

— А што для гэтага трэба? — пацікавіўся Мядзведзь.

— Разам часта бываць, у госці хадзіць, адзін аднаму памагаць.

— Я згодзен! — Мядзведзь пачухаў патыліцу і дадаў: — Пайшлі, сябар, да мяне чай піць!

Кіпеў самавар. Сябры пілі малінавы чай з мёдам і гутарылі. Нечакана Мядзведзь сказаў:

— Заўтра я збіраўся ісці па мёд, дык пойдзем разам.

Сустрэліся яны каля Заечай хаткі. Мядзведзь вёў сябра нацянькі, расхінаюць! кусты. Нарэшце ён спыніўся ля сасны.

— Глядзі: калода. Там — пчолы, там — мёд. Лезь!

Глянуў Заяц угару: сасна высокая-высокая, да галін не дабрацца.

— Не залезу я, Міхайла Іванавіч! Хіба ты падсадзі мяне.

Падсадзіў Мядзведзь Зайца на ніжні сук, і той палез вышэй. Толькі дабраўся да калоды, як адтуль выляцела Пчала і джагнула яго. Заяц кулём долу.

— Прыйдзецца самому лезці! — сказаў Мядзведзь.

Дадому вярталіся разам. А праз некалькі дзён Заяц сказаў сябру:

— Я дапамагаў табе, цяпер дапамажы і ты мне!

Пасмяяўся Міхайла Іванавіч з хвалька.

— Не-не, я табе колькі б мёду здабыў, каб не Пчала, — апраўдаўся Заяц.

— Добра, — палагаднеў Мядзведзь. — Пайшлі ў агарод!

Заяц зразаў капусту, а Мядзведзь бярэмкам насіў качаны. "Добра мець такога дружбака!" — радаваўся Заяц.

— Ну, як тваё сяброўства? — пацікавілася аднойчы ў яго Вавёрка.

— Лепшага таварыша і шукаць не трэба! — пахваліўся Заяц. — Сам усё робіць і мне дапамагае.

— Ой, ці доўга так будзе? — засумнявалася Вавёрка.

— Заўсёды...

Ды трэба было Мядзведзю ізноў схадзіць да пчалінай калоды.

— Справа твая лёгкая, — растлумачыў ён Зайцу, — глядзець, каб Чалавек не прыйшоў, пакуль я на дрэве буду. Як падыдзе блізка, гукні мне!

Палез Мядзведзь на сасну, а Заяц стаіць пад дрэвам, з нагі на нагу перамінаецца. Успомніў Вавёрку і засмяяўся:

— Не, табе такога сябра ніколі не знайсці...

Забыўся ён пра ўсё на свеце, а ў гэты час па лесе
Чалавек ішоў. Заяц мог яшчэ папярэдзіць сябра, ды спалохаўся і кінуўся на ўцёкі.

— Ах ты, нягоднік! — заўважыў Чалавек Мядзведзя. — Бачыш, куды забраўся!

Схапіў ён даўжэзны кій і Давай дубасіць звера. Мядзведзь ледзь жывы вырваўся. Адбег ад сасны, аддыхаўся і вырашыў: "З Зайцам больш не дружу!"

Заяц зноў застаўся адзін. А чаму?

## БРАТЫ-ЗАЙЧАНЯТЫ, САРОКА І ВОЎК

Братам-Зайчанятам было толькі чатыры дні. Як і ўсе малыя, яны былі бесклапотныя і шчаслівыя. Зайчаняты нават не засмуціліся, калі згубілася мама. Браты, як і раней, бегалі навыперадкі, ганяліся за матылямі, куляліся цераз галаў, гукалі. Нарабілі столькі шуму, што разбудзілі старую Сароку, якая драмала на суку.

— Бач, расшумеліся?! Цыц, малеча! — прыкрыкнула яна на Зайчанят.

Але тыя так разгуляліся, што не звярнулі ўвагі на Сароку.

"Калі мяне не слухаецеся, дык Воўк вас навучыць!" — вырашыла яна і паляцела шукаць Ваўка.

Шэры адпачываў пад ялінаю, схаваўшыся ў цяньку.

— Спіш, стары лянота, — пасарамаціла яго Сарока, — а недалёка Зайцы гуляюць і цябе не баяцца!

— Як не баяцца?! — адразу абудзіўся Воўк і шчоўкнуў зубамі. — Я галодны. Хутчэй вядзі мяне да іх!

Сарока нізка ляцела над кустамі. Воўк бег услед. Каля паляны яна прыпынілася, папярэдзіла:

— Цішэй тут: Зайцы блізка!

Шэры і стараўся ступаць пацiху, але пад нагу трапіў сучок і моцна трэснуў. Рэха пакацілася па лесе. Зайчанятам здалося, што гэта стрэл. Спалохаўшыся, яны кінуліся ў розныя бакі.

Воўк спачатку пабег за адным, а затым — за другім, але братоў і след прастыў. Воўк толькі аблізнуўся і яшчэ раз шчоўкнуў зубамі.

— Няўклюда, аніводнага не злавіў! — папракнула яго Сарока.

— Выбіраў, каторы большы, — азваўся шэры.

— Праўду кажуць: за двума зайцамі пагонішся — ніводнага не зловіш! — заківала галавою Сарока. — А можа, яно і лепш: няхай малыя вучацца, як у лесе жыць...

## ЧАМУ Ў ЗАЙЦА РАССЕЧАНАЯ ГУБА?

Ведаеце, чаму ў Зайца рассечаная губа? Калі не, тады слухайце.

Было гэта даўно. На дарозе ля Заечай хаткі ляжаў вялізны камень. Суседка Вавёрка аднойчы прапанавала:

— Давай скінем камень з дарогі!

— Не твая справа! — адказаў ёй Заяц. — Каля майго дома ляжыць — значыць, не чапай!

— Але ж ён перашкаджае звярам хадзіць?

— Трэба пад ногі глядзець, а не варон лічыць...

Першая нагу збіла Ліса. Цяўкнула ад болю, а Заяц насмешліва:

— А ты, Ліска, пад ногі глядзі, калі ходзіш!

Злосна зіркнула на яго Ліса і пакульгала далей. А Заяц наўздагон:

— А яшчэ хваліцца, што самая хітрая!

Спадабаўся Зайцу занятак — сядзець на прызбе і глядзець, хто спатыкнецца аб камень.

Збіў лапу і Мядзведзь. Зароў ад злосці і болю:

— Хто мне камяні пад ногі кідае?!

Схапіў камень, каб скінуць з дарогі, а Заяц яму з прызбы:

— Нядобра, Міхайла Патапавіч, чужое забіраць.

— А хіба гэта твой камень?

— Мой.

— Прабач, не ведаў, — і паклаў камень на месца.

"Хто ж вінаваты, — думаў Заяц, — што вы як сляпыя?.. Я ж ні разу не спатыкнуўся!"

Здарылася і яму спяшацца дамоў, калі зверху пачулася: "Кар-р!" Узняў Заяц галаву, каб паглядзець, дзе Варона, спатыкнуўся аб камень і рассек губу.

Вавёрка выглянула з дупла, пацвеліла:

— Пад ногі трэба, сусед, глядзець, а не варон лічыць!

Даўно прыбралі звяры той камень з дарогі, а Заяц і дагэтуль бегае з рассечанай губою.

## ТРЫ АПЕЛЬСІНЫ

Слон Адзік працаваў у цырку. Ён ахвотна вазіў на спіне зверанят, і яны выступалі, як сапраўдныя акрабаты. Але найбольш Адзік любіў жангліраваць.

Набліжаўся дзень яго нараджэння, і Адзік атрымаў скрыначку ад знаёмай малпачкі Зозі. У скрыначцы былі віншавальная паштоўка і тры апельсіны. Вялікія, як шарыкі, і залацістыя, як сонца.

Адзіна зноў паклікалі на арэну. Жангліруючы мячыкамі, слон бачыў: хлопчыкі і дзяўчынкі радуюцца, калі мяч узлятае высока, і засмучаюцца, калі падае долу. Але ён зноў падхопліваў мячык і падкідваў яшчэ вышэй.

Толькі адзін хлопчык у першым радзе за ўвесь час ні разу не ўсміхнуўся. Адзіку стала шкада яго. Пакуль дзеці пляскалі ў далоні, ён збегаў за сцэну і прынёс самы вялікі апельсін.

Слон падышоў да краю арэны і кінуў апельсін няўсмешліваму хлопчыку.

Той, вядома, не чакаў падарунка, крыху здзівіўся, але апельсін злавіў.

— Гэта мне? — ціха спытаў хлопчык.

— Табе! — схіліў голаў у паклоне Адзік.

І хлопчык раптам засмяяўся...

А вечарам прыйшла прыбіральшчыца Вера. На вачах у яе былі слёзы.

— Што здарылася? — спытаў Адзік.

— Няшчасце ў мяне, — прызналася цётка Вера. — Мая дачушка, Волечка, мусіць, захварэла. Капрызіць, нічога не есць.

Слон успомніў, як развесяліў таго адзінага сумнага ў зале хлопчыка, і сказаў:

— Можа, я дапамагу? — і даў апельсін.

На другі дзень цётка Вера дзякавала яму:

— Мая Волечка, так узрадавалася падарунку, што забылася пра ўсё: болей не капрызіць і з'ела поўную міску маннай кашы. Дзякуй табе, Адзік!

Прыйшоў дзень нараджэння. Звяры, з якімі слон штодзень выступаў на сцэне, паднеслі яму вялікі букет ружаў.

— А ў мяне толькі адзін апельсін... — разгубіўся, было, Адзік.

— Вельмі добра! — усміхнуўся мядзведзік Міша. — Яго можна падзяліць на долькі, і ўсім хопіць.

Звяры радасна засмяяліся. Радаваўся і Адзік, што ў яго такія добрыя сябры.

## ЯК ДЗЕДА МАРОЗА ЛЯЧЫЛІ

Занядужаў Дзед Мароз. Ляжыць у сваёй снежнай хаціне. Ніхто не прыйдзе праведаць яго, памагчы. Прыходзіла, праўда, Восень. Убачыла: прастудзіўся Дзед Мароз, і ўзрадавалася. Наслала дажджы, каб яны апошні снег змылі. "Не будзе снегу, — думала яна,— і забудуць людзі пра Новы год, ізноў гаспадыняй на зямлі буду я, Восень..."

Пра Марозаву хваробу даведалася Марынка. "Што будзе, калі да хлопчыкаў і дзяўчынак Дзед Мароз не прыйдзе?! — жахнулася яна.— Якая ж ёлка без яго! Дзеду Марозу трэба памагчы!"

І стала збірацца ў дарогу. Узяла ліпавага цвету. Бо калі сама прастудзілася, дык мама варыла ёй чай з ліпавага цвету. І пайшла да Доктара.

— Не ведаю, што рабіць, Марынка! — развёў той рукамі.— Дзяцей я лячыў, дарослых таксама, а Дзеда Мароза — ніколі!..

— Памажыце яму! — ледзь не заплакала Марынка — Не будзе Новага года без Дзеда Мароза!

— Ну, добра, паехалі! — згадзіўся Доктар.

Доўга ляцелі яны над палямі і лясамі на верталёце "Хуткая дапамога", аж пакуль не ўбачылі Марозаву хаціну.

Дзед Мароз ляжаў на пульхнай пярыне, ухутаны коўдрай. І крактаў:

— От немач прычапілася! Мне на ёлку трэба, а я ляжу!

— Не бядуй, дзядуля, вылечым! — суцешыла Марынка.— Я ліпавы цвет прывезла. І Доктар са мною.

Але аказалася, што ў Марозавай хаце няма печы. Дзе заварыць чай? Выручыў Доктар: ён спіртоўку падставіў пад чайнік, і вада хутка закіпела.

Дзед Мароз выпіў шклянку ліпавага чаю і адразу павесялеў: "Здаецца, палягчэла!" Доктар прымусіў яго яшчэ мікстуру выпіць. Зусім ажывіўся стары. Абуў валёнкі і давай тупаць па хаце, прыгаворваючы:

— Дзякуй вам, дарагія! Вылечылі вы мяне!

Калі Доктар і Марынка сабраліся ад'язджаць, Дзед Мароз выйшаў праводзіць іх.

— Гэта непарадак,— забурчаў ён,— што пад Новы год замест снегу дождж ідзе. Пашлю мяцеліцу з марозам.— І паехаў на санях у дарогу, каб не спазніцца на ёлку.

Ён стрымаў сваё слова: якраз у пару прыйшоў на навагодняе свята. І ўнучку Снягурку з сабой прывёў.

Сярод сотні дзяцей, якія вадзілі карагод, Дзед Мароз пазнаў Марынку. Падміргнуў дзяўчынцы: памятаю, як ты мне дапамагла!

## НА ПАЛЯНЕ, КАЛЯ ЁЛКІ...
**(Казка-п'еса)**

Асобы:

Дзед Мароз. Снягурачка.
Ляснік.
Алёнка — яго дачка.
Заяц.
Воўк.
Ліса, Зайцы, Вавёркі.

Лясная паляна. Пасярэдзіне — ёлка, упрыгожаная рознакаляровымі цацкамі. Выбягае Заяц.

**Заяц** (цяжка дыхае). Ой, ледзьве ад Ваўка ўцёк! Добра, што Ляснік памог, а то... (Уздыхае. Азіраецца, заўважае прыбраную ёлку). Хто гэта ўпрыгожыў яе пад Новы год?! Пайду раскажу Зайцам, разам паскачам ля ёлкі. (Выбягае).

У гэты час з другога боку з'яўляецца Воўк.

**Воўк**. Дзе ж гэта Заяц падзеўся? Сюды, здаецца, бег. (Заўважае навагоднюю ёлку, пагардліва). Прыбяры пень, дык і ён будзе прыгожы! (Чуваць нечыя крокі). Гэта, мусіць, Заяц. Няўжо я яго апярэдзіў? (Узрадавана). Прыйдзеш, даражэнькі, у самыя лапы! (Хаваецца пад ёлку).

Уваходзяць Дзед Мароз і Снягурачка. У Дзеда Мароза за плячамі мяшок з падарункамі.

**Снягурачка**. Глянь, Дзеду, якая прыгожая ёлка!

**Дзед Мароз**. Той, хто хараша ёлку прыбраў і нас з табою ў госці чакаў, заслужыў навагодні падарунак. Праўда, унучка?

**Снягурачка**. Праўда, Дзеду!

**Воўк** (ціха). Вось бы мне ад Дзеда Мароза падарунак атрымаць! (Выбіраецца з-пад ёлкі). Гэта я ўпрыгожыў яе!

**Дзед Мароз** (здзіўлена). Няўжо ты? Для каго?

**Воўк**. Ведаю, што Новы год набліжаецца, дык я для зверанят ёлку прыбраў.

**Дзед Мароз** (радасна). Малайчына! Што табе за гэта даць, Воўчык?

**Воўк**. Зайчыка мне б жывога...

**Снягурачка**. Няма ў Дзеда такога падарунка.

**Дзед Мароз**. Дам я лепш табе цукерак, шакаладку. (Падае мяшочак). Дзякуй табе, Воўчык, і ад мяне, і ад унучкі за ёлку!

Чуваць трэск і голас Лесніка: "Не бачылі Ваўка?" Воўк хуценька знікае. На паляну ўбягае Ляснік.

**Ляснік** (да Дзеда Мароза і Снягурачкі). Вы не бачылі Ваўка?

**Дзед Мароз**. Толькі што з намі размаўляў. Дзе ж ён?

**Снягурачка** (глядзіць пад ёлку). Знік некуды.

**Дзед Мароз**. А што такое?

**Ляснік**. Нядобры ён: Зайца крыўдзіць!

**Дзед Мароз**. Не можа быць. Ён жа для зверанят упрыгожыў ёлку!

**Ляснік** (недаверліва). Ён?! Манюка — ён!.. Гэта ж я для дачкі Алёнкі і звяроў на ёлку цацкі павесіў.

**Дзед Мароз**. Чаму ён зманіў?

**Ляснік**. Вы, мабыць, паабяцалі нешта таму, хто ўпрыгожыў ёлку?

**Дзед Мароз**. Я даў яму падарунак. А ён, аказваецца, ашукаў мяне, старога! Э-хе-хе!.. (Цяжка ўздыхае,ківае галавою).

На паляну выбягаюць Алёнка, Зайцы, Вавёрка і Ліса.

**Заяц**. Я прывёў сюды сваіх сяброў. Няхай сустрэнуць Новы год ля ёлкі!

**Ляснік**. А ці падабаецца яна вам?

Усе. Прыгожая. Вельмі-вельмі прыгожая! Дзякуй табе, дзядзечка Ляснік!

**Алёнка**. Дзякуй, татка! Харошы падарунак для мяне падрыхтаваў!

Дзед Мароз і Снягурачка. Дык давайце весяліцца ля ёлкі!

Усе становяцца ў круг, скачуць вакол ёлкі, пяюць карагодную. Потым Дзед Мароз глядзіць на гадзіннік.

**Дзед Мароз**. З Новым годам, дарагія! З новым шчасцем! Няхай збудуцца вашы мары! (Раздае падарункі).

**Усе**. Дзякуем!

**Снягурачка**. Хто песеньку пра зіму альбо ёлку праспявае ці вершык раскажа, таму Дзед Мароз яшчэ падарунак дасць.

**Заяц** (узнімае лапу). Я раскажу.

**Дзед Мароз**. Добра, слухаем цябе.

**Заяц** (дэкламуе).

Ёлка, дружны карагод,
Ды ў палях зімою пуста.
Добра, каб пад Новы год
Дзед прынёс качан капусты.

**Дзед Мароз** (з усмешкаю). Ну і хітрун ты, Зай! (Дастае з мяшка качан капусты і падае яму).

**Вавёрка**. А я ведаю песеньку пра елачку.

**Ліса**. І я ведаю.

**Снягурачка**. Можа, і астатнія ведаюць?

**Усе**. Ведаем!

**Снягурачка**. Дык давайце спяваць разам!

Спяваюць. На палянку, накульгваючы, выходзіць Воўк.

**Воўк**. Ву-у-у!.. Холадна мне, су-у-мна аднаму-у. Хачу-у з вамі гуляць.

**Алёнка**. Чаму пад нашымі вокнамі выеш?

**Вавёрка**. Навошта маіх дзетак палохаеш?

**Ляснік**. Чаго за Зайцам ганяешся?

**Воўк**. Слова даю-у, што больш не бу-уду! (Да Лесніка). А за Зайца ты мне нагу-у прастрэліў. Ву-у, як баліць! (Да Дзеда Мароза). Вось твой мяшочак з цукеркамі. Несправядліва я атрымаў яго. Вазьмі назад.

**Дзед Мароз**. Сёння я ўсім падарункі разношу. Няхай табе застануцца гэтыя цукеркі! (Да ўсіх). Дык паверым яшчэ раз Ваўку?

**Усе** (разам). Давайце паверым!

Воўк становіцца побач з Вавёркаю і Лісою. Усе скачуць вакол ёлкі і пяюць. Нечакана Воўк кідаецца на Зайца. Ляснік хапаецца за стрэльбу. Воўк уцякае.

**Ляснік** (махнуў рукою). Эх, уцёк!..

**Ліса**. Манюка вялікі! Прыкінуўся кульгавым, каб Зайца злавіць. А зараз пабег не кульгаючы.

**Вавёрка**. Вось і вер Воўчаму слову!

**Дзед Мароз**. Хто ж паверыць таму, хто двойчы змяніў?

**Снягурачка**. Ніхто, Дзеду, ніхто!

**Ляснік.** Болей Воўк сюды не вернецца, а не, дык!.. (Трасе стрэльбаю).

**Алёнка.** Давайце весяліцца далей!

**Усе** (пяюць).

Ты зманіў сягоння двойчы.
Не паверым табе, Воўча!
І цяпер, на Новы год,
Ты не трапіш ў карагод.
Самі ж будзем танцаваць,
Весяліцца і спяваць...

ЗАСЛОНА.

## КАЗКІ-ЗАГАДКІ

### 1. "УПАРТЫ"

На дзень нараджэння Максімка атрымаў падарунак. Гадзіннік не гадзіннік, хаця і са стрэлкаю. Адзін канец яе — чырвоны — увесь час паказваў на поўдзень, а сіні — на поўнач.

Хлопчык доўга круціў у руках падарунак, пераастаўляў з месца на месца, варочаў. Але стрэлка ўстанаўлівалася зноў і зноў на поўдзень і поўнач.

— Ну і ўпарты! — нарэшце не вытрымаў Максімка.

— Не ўпарты я, — пачуў ён раптам у адказ, — а вучу цябе, каб у лесе не заблудзіўся.

Які падарунак атрымаў хлопчык?

### 2. ХТО КАГО ПЕРАКРЫЧЫЦЬ?

Максімка з дзедам пайшлі ў грыбы. Хараша ў лесе! Высокія яліны акружылі палянку з усіх бакоў. На прыгрэтым сонцам пагорку хлопчык знайшоў сямейку лісічак і стаў зразаць грыбкі.

Калі Максімка ўзняў вочы, дзядулі побач не было. Хлопчык кінуўся ў адзін бок, у другі — дзед як скрозь зямлю праваліўся. Максімку раптам стала страшнавата. Ён дрыжачым голасам паклікаў:

— Дзеду!

І ў той жа момант нехта непадалёку азваўся:

— Ду-ду! Ду-ду!

— Аў! — грамчэй крыкнуў хлопчык.

Хтосьці невядомы, быццам гуляючы ў дражнілку, некалькі разоў паўтарыў "аў". Максімка склаў рупарам далоні і закрычаў:

— Дзеду, аў!

Выразна пачулася:

— Ду-ду, аў!

Ад таго, што ён адзін і што нехта хоча з ім гуляць, хлопчыку зрабілася весела.

— Яшчэ пабачым, хто каго перакрычыць! — сказаў ён.

Не паспелі скончыць гульню, як з-за дрэва выйшаў дзядуля з поўным кошыкам грыбоў.

— Я — тут. Чаго крычыш? Што, страшна?!

— Не, гэта мы гулялі, хто каго перакрычыць.

— А-а! — зразумеў унука дзядуля.

А вы, дзеці, здагадаліся, з кім гуляў Максімка?

## 3. ЗОРАЧКІ-ЗОРКІ

Вавёрка Вера раніцай выскачыла з дупла, зрабіла фіззарадку і раптам убачыла: на зямлі пад сасною хтосьці за ноч рассыпаў зоркі. Залаціста-жоўтыя, прыгожыя. Вавёрка спусцілася ніжэй, але сысці на зямлю пабаялася: можа, яны гарачыя?

У гэтую хвіліну пад дрэвам прабягала Ліса.

— Лісіца-сястрыца, — ласкава звярнулася да яе Вавёрка. — Што гэта за зорачкі-зоркі ўнізе?

Ліса на момант прыпынілася і адказала весела:

— Ніякія гэта не зорачкі, а грыбы з маім імем.

— Грыбы? — здзівілася Вавёрка Вера. — А чаму яны залаціста-жоўтыя?

— Такія ж, як я, — засмяялася Ліса і пабегла далей.

А Вавёрка Вера яшчэ доўга не магла паверыць, што гэта не зорачкі, аж пакуль ні прыйшоў сюды Чалавек, які пачаў зразаць і класці іх у кошык.

Якія зоркі ўбачыла Вавёрка Вера?

## 4. КАВАЛЬ

Пасля абеду з захаду выплыла вялікая чорная Хмара, пайшоў спорны летні дождж. Ніхто не бачыў, калі Каваль падставіў высозную драбіну і хуценька ўзабраўся наверх. Але неўзабаве ён пачаў старанна працаваць: застукаў, зафукаў, і з накавальні паляцелі залатыя іскры.

Хмара разраслася і закрыла Сонца. А Каваль працаваў і працаваў. Часам фукаў так моцна, што, здавалася, уздрыгвала зямля, а іскры віліся доўгімі змейкамі.

Нарэшце, ці Каваль стаміўся, ці работу сваю ўжо канчаў, але стукаў ён усё радзей і радзей. А затым і зусім паклаў молат.

Хмара паплыла далей, і зноў выглянула Сонца. Яно папрасіла Каваля:

— Пакажы, што выкаваў ты!

І Каваль выставіў на паўнеба сяміколерны, зіхуткі мост.

— Маладзец! — усміхнулася Сонца.

Як завуць Каваля і што за дзіва-мост ён выкаваў?

## 5. ЛЯСНАЯ ГОСЦЯ

Набліжаўся Новы год. У клас, дзе вучыліся дзеці, нехта моцна пастукаў. Хлопчыкі і дзяўчынкі адарваліся ад падручнікаў, глянулі ў акно і ўбачылі лясную госцю.

— Ёй холадна, — жаласліва сказала дзяўчынка з вялікім блакітным бантам.

— Давайце паклічам яе ў клас! — прапанаваў хлопчык.

— Не, — сказала настаўніца, — у класе ёй будзе цесна. Давайце лепей запросім яе ў школьную залу.

Абафэўшыся ў цяпле, лясная госця засумавала без сяброўкі-бярозы, без рабіны ў чырвоных каралях, якія раслі непадалёку.

— Давайце ўпрыгожым яе! — падказала настаўніца.

Дзеці павесілі цацкі, цукеркі, яблыкі, а наверсе зорку прымацавалі. А госці ўсё роўна не радасна:

— Да мяне прыбягалі заяц, вавёрка, ліса, а зараз нікога няма...

— Будуць табе і звяркі, — паабяцалі дзеці.

Яны зрабілі маскі зайца, вавёркі, лісіцы, мядзведзя. А калі на свята прыйшлі Дзед Мароз і Снягурка, калі ўсе сталі вадзіць карагод, зусім равесялілася лясная госця, і вырашыла яна кожны раз прыходзіць да дзяцей пад Новы год.

Хто хутчэй адкажа: як завуць лясную госцю?

Адказы на казкі-загадкі: 1. Компас. 2. Рэха. 3. Грыбы лісічкі. 4. Гром і вясёлка. 5. Навагодняя ёлка.

## ЗМЕСТ

Будзень і Свята
Камар і Карп
Заечая шапка
Бот ці лапаць?
Пра Гардзея і лясных звяроў
Сакавік
Хованкі
Чаму сонца рана ўстала?
Як Заяц з Мядзведзем сябраваў
Браты-зайчаняты, Сарока і Воўк
Чаму ў Зайца рассечаная губа?
Тры апельсіны
Як Дзеда Мароза лячылі
На паляне, каля ёлкі... (Казка-п'еса)
Казкі-загадкі
1. "Упарты"
2. Хто каго перакрычыць?
3. Зорачкі-зоркі
4. Каваль
5. Лясная госця